*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**

**№ 24 (146)**

Пятніца, 7 лютага 1997 г.

Выдаецца на беларускай і рускай мовах

Кошт: у кіёсках і крамах — 1500 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля


| Сонца | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 7.40 | 16.47 |
| Магілёў | 7.35 | 16.51 |
| Гомель | 7.28 | 16.53 |
| Мінск | 7.46 | 17.01 |
| Гродна | 8.00 | 17.17 |
| Брэст | 7.56 | 17.23 |



**Прогноз**

## Грядут новые выборы?

Не исключено, что уже в конце нынешней весны или начале осени на Беларуси состоятся новые выборы. О такой возможности мне рассказал один из видных белорусских политиков, который попросил пока не называть его фамилию. Дело в том, что этот человек имел частные беседы с членами комиссии Европейского Союза, которая недавно находилась в Минске. По результатам этих встреч сложилось впечатление: цивилизованная Европа, с одной стороны, не заинтересована иметь в центре континента вторую Кубу. С другой стороны, признать многочисленные нарушения при проведении референдума Европейскому сообществу также не с руки. А отсюда и компромиссный вариант — провести новые выборы в Национальное собрание Беларуси.

Такой вариант вполне может устроить всех. Президент Лукашенко получит возможность выйти из атмосферы непризнания легитимности его действий Европейским сообществом, а Европа, вынудив белорусского президента провести новые выборы, тем самым покажет всему миру дееспособность своих организаций. Пострадавшими в этой ситуации окажутся лишь депутаты Национального собрания Беларуси. А посему и возникает вопрос: а надо ли им было мараться, перебегая с площади Независимости на улицу Карла Маркса? Впрочем, такая уж, видно, депутатская судьба. Не лишне вспомнить, что и их предшественники из 12-го и 13-го созывов тоже стали, по сути, разменной картой в руках первого белорусского президента. Ему к этому не привыкать.

Петр Кравченко, которого я попросил оценить возможность такого сценария, признал его вполне возможным. Европе очень хочется снять напряжение в Беларуси и получить лавры миротворца. Не исключает такого поворота событий и Станислав Богданкевич. Но он считает, что нужно идти дальше: если уж проводить новые выборы, то одновременно и в Национальное собрание, и президента Беларуси.

**Владимир ГЛОД.**

**Возвращаясь к напечатанному**

# Снова о "Погроме..."

1 февраля с.г. "Народная воля" напечатала тезисы моего выступления на заседании Совета Белорусского союза предпринимателей. Опубликованы они под острым названием — "Погром белорусского предпринимательства". К сожалению, проскочила одна опечатка — вместо 12,3% следует читать 42,3%. Дело в том, что этот процентный показатель играет очень важную роль и его стоит кратко прокомментировать. Речь идет вот о чем. В нынешней так называемой "нижней палате Национального собрания" представлено ровно 110 бывших депутатов Верховного Совета, а выборы в Верховный Совет 13-го созыва проводились по 260 округам. Таким образом, если считать упомянутую нижнюю палату выборной, то в ней вообще не представлено около 60% электората, а такой парламент ни по каким цивилизованным меркам не может считаться репрезентативным. Если же настаивать на том, что 110 нижнепалатников назначены представлять всю Беларусь, то такого рода организация по тем же цивилизованным меркам не может считаться демократическим парламентом.

В этом, упрощенно говоря, и заключается та мертвая юридическая ловушка, в которую загнали себя сочинители ноябрьского референдума и конституции-96. Именно из-за этой ловушки (кроме массы серьезнейших нарушений в ходе референдумных мероприятий и оформления их последствий) европейские организации при всем желании не могут считать "нижнюю палату" чем-то легитимным — либо это недемократический орган, либо нерепрезентативный (скорее всего — и то, и другое).

В сущности, та же ситуация и с "верхней палатой", которая должна формироваться облсоветами, Минским горсоветом и президентом. Но ведь, скажем, 36 избранных депутатов Минского горсовета, как и делегированная ими в "верхнюю палату" восьмерка "сенаторов", представляют всего около 43% минского электората. Примерно та же картина и по делегатам от областей.

Создается впечатление, что вроде бы до зубов вооруженные компьютерной техникой, сводами законов и статистикой околопрезидентские конструкторы "нового порядка" не в ладах с обычным калькулятором и обычным здравым смыслом. Иначе разве спланировали бы они перерегистрацию примерно 250 тысяч субъектов хозяйствования силами облисполкомов и Мингорисполкома в течение нескольких последних месяцев 1996 года? Или, скажем, заложенную в закон о бюджете на 1997 год двухпроцентную среднемесячную инфляцию (менее 27 процентов в год), если даже по правительственной оценке инфляция уже за первый квартал должна быть не менее 20 процентов.

Между тем погром белорусского предпринимательства продолжается. Вслед за Комаровским рынком — верховный крутой наезд на вещевой рынок "Динамо", решение о "национализации с экспроприацией" по кооперативному рынку в Курасовщине поступает информация о прекращении новых регистраций до 1 июля и т.д. и т.п.

**Александр ПОТУПА,**
**вице-президент Белорусского союза предпринимателей.**

## "Черный список" Тамары Винниковой?

Специалисты отметили: первое, что сделал Геннадий Алейников, возглавив правление Национального банка Беларуси, это восстановил единый курс белорусской валюты.

Раньше, когда Нацбанком руководила Тамара Винникова, курсов было несколько: для особо стратегических товаров — один, для обычных — другой, для коммерческих банков — третий. По своим ценам шла белорусская валюта на Московской межбанковской бирже, свои цены были и у "менял". Естественно, на разных курсах можно было иметь очень приличный "навар". Согласитесь: одно дело покупать, скажем, миллион-другой долларов по 15 000 белорусских рублей и совсем другое — например, по 27 000.

Поскольку курсов было несколько, Тамара Винникова, говорят, имела возможность давать разрешение на продажу валюты "по разным весовым категориям". Но, как утверждают знающие люди, Тамара Дмитриевна завела специальную тетрадь, в которой четко фиксировала, по чьему указанию продавалась валюта по льготному курсу. Утверждают, что в этой графе чаще всего встречались три известные в республике фамилии. Геннадий Алейников, как видно, не пожелал попадать в такую зависимость от вышестоящего руководства и настоял на восстановлении курса.

Что же касается "черного списка" Тамары Винниковой, то он, с одной стороны, как бы служит гарантией ее безопасности, а с другой — представляет повышенный интерес для известных лиц.

**Владимир КОТ.**

## Што скажа Пётр Краўчанка ў Лондане?

Па запрашэнні Лонданскага інстытута стратэгічных даследаванняў (IISS), аднаго з самых вядомых ў свеце цэнтраў у галіне ядзернай зброі і абаронных бюджэтаў, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Пётр Краўчанка з 6 па 9 лютага наведае Вялікабрытанію для ўдзелу ў адным з навуковых сімпозіумаў. Яго тэма: "Удзел парламентаў у фарміраванні палітыкі нацыянальнай бяспекі і структура бяспекі новых незалежных дзяржаў былога Савецкага Саюза". У ім прымуць удзел парламентарыі Расіі, Малдовы, Украіны і Беларусі. Будуць абмяркоўвацца і пытанні ядзернай бяспекі на постсавецкай прасторы ў пакеце Дагавора СНУ-1 і Лісабонскага дагавора да яго.

Вядома, што ад імя Рэспублікі Беларусь ў маі 1992 года Пётр Краўчанка падпісаў у Лісабоне пратакол да Дагавора СНУ-1. У наступныя гады ён дабіўся выдзялення рэспубліцы 101 мільёна долараў у рамках пяці праграм, накіраваных на будаўніцтва жылля для вайскоўцаў, экалогію, умацаванне барацьбы з нелегальным перамяшчэннем урану і іншых радыеактыўных рэчываў, перааснашчэннем у гэтых мэтах спецпадраздзяленняў МУС і пагранвойск.

У сувязі з вывадам з тэрыторыі Беларусі напрыканцы лістапада 1996 года апошніх ракет стратэгічнага прызначэння наша рэспубліка дэ-юрэ і дэ-факта ператварылася ў бяз'ядзерную тэрыторыю. Такім чынам, адна з мэтаў, закладзеных у Канстытуцыю 1994 года, рэалізавана. І тым не менш, як лічыць шэраг экспертаў Вялікабрытаніі, Расіі і ЗША, Рэспубліцы Беларусь ёсць шанц знайсці сваё месца і ў абмеркаванні і нават падключэнні да расійска-амерыканскіх кансультацый у рамках падрыхтоўкі да ратыфікацыі Дагавора СНУ-2.

Лонданскі інстытут стратэгічных даследаванняў заказаў Пятру Краўчанку некалькі публікацый па пытаннях умацавання ядзернай бяспекі і бюджэтнай абароннай палітыкі на постсавецкай прасторы.

Трэба падкрэсліць, што запрашэнне прыняць удзел у сімпозіуме накіравана і іншым парламентарыям. Праўда, Лондан прыме толькі тых, хто прызнае легітымнасць Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і захоўвае статус яго дэпутата.

**Антон КУНІЦКІ.**

**Незалежная экспертыза**

# Хто стварыў валютны тупік?

**Уладзімір КУЛАЖАНКА,**
**доктар эканамічных навук, прафесар**

Валютны крызіс у Рэспубліцы Беларусь доўжыцца не адзін год. Але такой моцнай дэвальвацыі беларускага рубля, калі паводле пастановы ўрада і Нацыянальнага банка яго валютны курс 8 студзеня быў устаноўлены ў межах 15—21 тыс.рублёў, краіна яшчэ не ведала. Адбылося нешта падобнае на "чорны аўторак" у Расіі восенню 1995 года.

Перад гэтым не адзін раз заяўлялася аб макраэканамічнай стабілізацыі, аб валютным калідоры, які спыніў інфляцыю і стварыў умовы для пераадолення крызісу. І раптам прымаецца рашэнне аб увядзенні новага валютнага курсу рубля... Правалілася палітыка каманды прэзідэнта разам з паслухмяным Нацыянальным банкам валявымі метадамі ўстанаўліваюць і рэгуляваць валютны курс, а значыць, і інфляцыю.

Змена курсу беларускага рубля — вымушаная мера, бо папярэдні валютны калідор у межах спачатку 11500 рублёў, а затым 15500 рублёў за долар нанёс непапраўныя страты эканоміцы. Быў проста падарваны экспарт тавараў, а знешнегандлёвы баланс стаўся летась небяспечна адмоўным на велізарную суму — каля 1,5 млрд. долараў (па 150 долараў на кожнага грамадзяніна краіны).

Падтрымліваць штучна валютны курс можна было толькі за кошт валютных рэзерваў Нацыянальнага банка, якія бязмэтна знікалі. Калі на пачатку 1996 года яны яшчэ складалі 100 млн. долараў, то да пачатку 1997 года зведзены да нуля ці каля гэтага.

Знешне ўвядзенне новага валютнага калідору ўяўляецца як падзея, што нібы датычыцца толькі грашовага абарачэння. Але на справе калі зніжаецца курс, то растуць цэны як на спажывецкія тавары, так і на фактары вытворчасці. Тавары купляюцца і прадаюцца не толькі ўнутры краіны: Беларусь купляе і прадае іх па-за сваімі межамі, а цэны ўстанаўліваюцца ў цвёрдых валютах. Такім чынам, пры змене валютнага курсу імгненна змяняюцца цэны. Парадаксальнасць валютнай сітуацыі на Беларусі заключалася ў тым, што адміністрацыйны курс рубля нібыта стаяў на месцы, а рынкавы фарміраваўся сам па сабе. У сувязи з гэтым цэны по-ранейшаму раслі, толькі "вымывалася" валюта з краіны і ўтвараўся яе дэфіцыт з прычыны бессэнсоўнай валютнай палітыкі.

Дэфіцыт валюты і ажыятажны попыт на яе былі створаны не толькі палітыкай урада і "эканамістамі" кшталту Пятра Пракаповіча, але і Нацыянальным банкам. Паўтара гады таму, калі Нацыянальны банк узначальваў Станіслаў Багданкевіч і ўсё ішло да лібералізацыі валютных стасункаў, валютны курс беларускага рубля быў адзіны, як і ў любой цывілізаванай краіне (між іншым, і ў Расіі). А зараз іх стала аж чатыры: біржавы, міжбанкаўскі, камерцыйны і ценявы. Падобна на тое, ці не спецыяльна створаны ідэальныя ўмовы для валютных спекуляцый, для лоўлі рыбы ў каламутнай вадзе.

Пры непапулярнасці ранейшага валютнага калідору ў Нацыянальным банку не супраць зараз наогул адмовіцца ад такога паняцця. Незадоўга да свайго, так бы мовіць, "зыходу" з банкаўскай сістэмы Тамара Віннікава заявіла ў сваім апошнім тэлевізійным інтэрв'ю, што ўстанаўліваемы зараз валютны курс беларускага рубля ў межах 15 500—21 000 рублёў — гэта не калідор, а свядомая дэвальвацыя. Правільна, дэвальвацыя, але ўстаноўленая ў пэўных межах. Дык чым не калідор, калі ніхто не можа выйсці з яго.

Новы валютны калідор стаў такім вузкім, што ў першыя дні яго ўвядзення пад ціскам перавагі попыту на валюту над яе прапановай на пазабіржавым банкаўскім рынку каціроўкі долара значна перавысілі адзнаку 30 тыс.рублёў за 1 долар. Стала відавочным, што новы валютны курс рубля не адпавядае рэаліям часу. Эксперты сцвярджаюць, што ён знаходзіцца зараз у межах 27 тыс. рублёў, калі не болей. Так што "рэзерв" дэвальвацыі беларускага рубля яшчэ вялікі з пэўнымі негатыўнымі наступствамі. Тым болей што і Цэнтральны банк Расіі ўстанавіў суадносіны расійскага рубля да беларускага як 1:4,2 замест вызначэння яго Нацыянальным банкам Беларусі як 1:3.

Празмерны выхад валютнага курсу рубля і долара за межы калідору напалохаў адміністрацыю. Нацыянальны банк атрымаў строгую каманду. Так неадкладна з'явілася ўказанне Нацыянальнага банка, каб на нябіржавым і наяўным рынках з улікам любых камісійных і павышальнага каэфіцыентаў курс долара не перавышаў 22 050 рублёў. Якая дакладнасць: нават 50 рублёў прыпісана да 22 тысяч!

Але ўвесь "гумар" у тым, што долараў па такой цане няма. Утварыліся шматгадзінныя чэргі за набыццём валюты. Выкарыстоўваючы сітуацыю, чорны рынак не дрэмле. Канешне, не па сваёй ініцыятыве міліцыя разгарнула барацьбу з валютчыкамі аж да іх затрымання і незаконнай канфіскацыі ў іх грошай і накладання штрафаў. Але валютчыкі не зніклі і не знікнуць, пакуль для іх "працы" будуць эканамічныя ўмовы. Ёсць інфармацыя, што па праблеме барацьбы з незаконнымі валютнымі здзелкамі рыхтуецца спецыяльны ўказ прэзідэнта. Але нічога больш бездапаможнага прыдумаць нельга. Проста так званыя мянялы зменяць формы сваёй дзейнасці. Між тым ёсць толькі адна дзейсная форма барацьбы з валютчыкамі — лібералізацыя валютных адносін, а дакладней — увядзенне адзінага валютнага курсу на рынкавай аснове.

Але Адміністрацыя прэзідэнта на такое ніколі не пойдзе па той прычыне, што гэта ўзмоцніць шокавую тэрапію. Цэны паляцяць угору. Уявім, што валютны курс рубля пры яго лібералізацыі пасля ваганняў уверх і ўніз, што адбудзецца абавязкова, застыне на пэўны час на адзнацы 27 тыс. рублёў за долар. Што адбудзецца з цэнамі? Яны неадкладна павысяцца як мінімум у два разы. Можна і не гаварыць, якія будуць палітычныя наступствы і куды хістанецца электарат прэзідэнта!

Але нягледзячы на адміністрацыйныя меры ўтрымання ўстаноўленага валютнага калідору, ад якога, мяркуючы па формах і метадах барацьбы з так званымі валютчыкамі, Адміністрацыя не мае намеру адмаўляцца, нават устаноўлены новы валютны калідор азначае прызнанне падзення курсу рубля да долара на 40%. Але гэта першы этап прывядзення рубля да "нормы". Далейшая шокавая тэрапія хоць і ў паэтапнай форме, але не за гарамі. Пра гэта сведчыць, напрыклад, той факт, што Цэнтральны банк Расіі па-ранейшаму ацэньвае суадносіны расійскага рубля да беларускага не як 1:3 паводле ацэнкі Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, а як 1:4,2. Ціск з усходу непазбежны. Да таго ж нестыкоўка цэнаў, напрыклад, на прадукты харчавання у нас і ў Расіі прыводзіць да вывазу харчовых тавараў — найперш з Віцебскай і Магілёўскай абласцей на Смаленшчыну ды Браншчыну. Улады паспяшаліся прыняць адміністрацыйныя меры. Яны гавораць пра многае. Па-першае, прадуктаў на ўнутраным рынку становіцца ўсё меней, што сілкуе інфляцыю і шокавую тэрапію; па-другое — у краіне няма рынку і рыначнага самарэгулявання. Інакш пры выгаднасці экспарту (вывазу) яго ніхто б не скарачаў, а вытворчасць імгненна адрэагавала б ростам вырабу прадукцыі, якае мае попыт.

Сучаснае зніжэнне валютнага курсу рубля прывядзе толькі да аднаго — росту інфляцыі. Прэзідэнт увесь час абяцаў народу, што ён не дапусціць шокавай тэрапіі. А што мы бачым? У снежні цэны павысіліся найперш на харчовыя тавары мінімум на 30% і працягваюць расці ў студзені пасля аб'яўлення новага валютнага курсу. Гэта і ёсць шокавая тэрапія, якая вызначаецца валютнай палітыкай. Інфляцыя ў краіне ў першым квартале бягучага года можа дасягнуць 40%, а не 2% у месяц, як вызначана ўказам прэзідэнта N 570. Міністэрства гандлю аб'явіла, што яна ўжо павысілася на 8%. Значыць, і ўсе іншыя сацыяльна-эканамічныя прагнозы адміністрацыі збудаваныя на зыбучым пяску. Доўгі час не пратрывае і цяперашні валютны курс.

Наша валютна-крэдытная паітыка такая, што суб'екты гаспадарання мусілі вучыцца абыходзіць яе калідоры. І навучыліся... пры дапамозе пераліку долараў ў рублі і рублёў у долары праз трэцюю валюту. Цэлы год цягнулася гэтая практыка, пакуль была выяўлена і спынена. Фактычна забаронены, хоць і аб'яўлена, што часова, продаж у абменных пунктах наяўных долараў за грыўны, латы, літы ды іншыя валюты, што незаконна. Але няма сумнення, што будуць знойдзены іншыя шляхі абыходу жорсткага валютнага калідору.

Паколькі ў сучасных умовах валютны крызіс спараджае рост інфляцыі на ўзроўні шокавай тэрапіі, то ўзнікае пытанне, як зліквідаваць прычыны валютнага крызісу?

Адна з такіх прычын у тым, што на працягу мінулага года назіралася няўхільнае адставанне валютнай выручкі ад аб'ёмаў імпарту. У студзені яно складала 2,9 трыльёна рублёў, а пад канец года — 4,7 трыльёна. Вось дзе трэба было стабілізаваць валютны курс рубля, а не адміністрацыйнымі метадамі спыняць яго падзенне ўнутры краіны.

Як вядома, для стабільнасці валютнага рынку асабліва значэнне мае сувязь валютнай выручкі з сукупнай грашовай масай. Нацыянальны банк пад ціскам адміністрацыі празмерна шчыраваў у справе эмісіі грошай, асабліва ў другой палове года. У выніку рэзка змяніліся суадносіны свабодна канверсуемай валюты і беларускіх рублёў у сукупнай грашовай масе. Калі ў лютым выручка за экспарт у сукупнай грашовай масе складала 28% (і гэта дастаткова важкая ўдзельная вага), то ў апошнія месяцы года яна была ўдвая меншай — 14%. Менавіта з гэтай прычыны рублёвы попыт апярэджвае прапанову валюты. Валютны дэфіцыт змушаў банкі ўстанаўліваць ліміты на абмен валюты. У чацвёртым квартале мінулага года з гэтай прычыны ледзьве не спыніў вытворчасць Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод. Ён накапіў рублі за рэалізаванае паліва, а абмяняць іх на 54 млн. долараў, каб купіць нафту ў Расіі, не мог.

Адмоўны ўплыў на валютны курс рубля аказала палітыка МВФ і МБРР. Па віне беларускага боку, які не выканаў аб'яўленыя ўмовы, МВФ адмовіў Рэспубліцы Беларусь у крэдытах для падтрымкі курсу нацыянальнай валюты і плацежнага балансу.

Але ж дзе выйсце і ці ёсць яно? Выйсце заблакаваў прэзідэнт А.Лукашэнка. Пасля рэферэндуму чакаць актывізацыі знешніх інвестыцый безнадзейна. Дарэмныя і надзеі на знямоглую Расію, дзе толькі запазычанасць па заработнай плаце складае 46 трыльёнаў рублёў ды па пенсіях — 13 трыльёнаў. Агулам у пераводзе на валюту гэта болей як 10 млрд. долараў. Ды знешняя запазычанасць дасягнула 80 млрд. долараў.

Выратаваць грашовы рынак ад абвастрэння сітуацыі і шокавай тэрапіі маглі б і валютныя зберажэнні народа. Па ацэнках экспертаў, яны складаюць 1,5—2 млрд. долараў. Але гэтыя грошы зусім не ў электарата прэзідэнта, а ў свядомай часткі насельніцтва. І папулісцкімі мерамі гэтыя грошы пазычыць нельга.

А пакуль на гарызонце — валютны тупік. Калі не прыняць дзейсныя меры, цяжка будзе дзяржаве і яе грамадзянам.

**Крокі прыватызацыі**

## Азартны бізнесмен

Цікава і паспяхова прайшоў 27-ы аўкцыён па продажу гарадской камунальнай уласнасці ў Гомелі. Адзін мясцовы бізнесмен настойліва змагаўся за магазін "Лугавы" па вуліцы Уладзімірава і выклаў за яго мільярд 200 мільёнаў рублёў. Першапачатковая цана за яго была 630 мільёнаў. Гэты ж пакупнік, увайшоўшы, відаць, у азарт, купіў і яшчэ адзін магазін — "Палессе" за 127 мільёнаў рублёў. А яшчэ кажуць, што нашы прадпрымальнікі бедныя.

У горадзе на Сожы пры ўдзеле Міжнароднай фінансавай карпарацыі новых гаспадароў набылі ўжо 32 аб'екты, у тым ліку 17 магазінаў і 10 прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання. Гарадскі бюджэт атрымаў 9 мільярдаў рублёў. Асаблівую цікавасць выклікаў продаж бані за 111 мільёнаў рублёў. З гэтага выпадку гамяльчане кажуць, што у іх цяпер з'явіцца магчымасць адчуць розніцу "паміж дзяржаўным і прыватным парам".

## Мільярд за "Глобус"

Найбольш паспяхова ідзе прыватызацыя ў Брэсце. Чаму? Тут яшчэ ў лістападзе 1995 года гарадскія ўлады прынялі дакумент, які дае права ўласнікам прыватызаваных прадпрыемстваў, якія знаходзяцца ў шматкватэрных дамах ці прыбудовах да іх, набываць іх ва ўласнасць. Гэтым ахвотна карыстаюцца прадпрымальнікі, бо прыватная ўласнасць на памяшканні — добрая аснова стабільнай работы. За такія аб'екты ідзе бойкі гандаль. Вось прыклады. Першапачатковая цана майстэрні была 5 мільёнаў рублёў, а прадалі яе за 600 мільёнаў. А за памяшканне магазіна "Глобус" пераможца аўкцыёна не пашкадаваў больш як мільярд рублёў.

Улічваючы гэты аспект, Брэсцкі гарвыканком зняў шэраг абмежаванняў на набыццё ва ўласнасць купленых на аўкцыёнах аб'ектаў. Трэба спадзявацца, што такая мера яшчэ больш ажывіць гандаль.

**Іван ПЯТРОЎ.**



**Спорт**

# Браво, ребята!



**Приятное сообщение пришло из Осрбли (Словакия), где проводится чемпионат мира по биатлону. В командной гонке на 10 км чемпионами мира стали белорусские стреляющие лыжники Олег Рыженков (в центре внизу), Вадим Сашурин (справа внизу), Павел Ивашко (вверху) и Александр Попов (внизу слева). С победой, чемпионы!**

Александр МАЙСКИЙ.
Фото БЕЛТА.







## "Жывая" прэмія спрацавала на сто працэнтаў

Неардынарныя стымулы павышэння прадукцыйнасці працы з поспехам практыкуюцца ў калгасе імя Кірава Навагрудскага раёна. Па выніках работы за год лепшых работнікаў фермаў тут пачалі прэміраваць... каровамі і цялятамі. А некаторыя жывёлаводы як узнагароджанне атрымліваюць муку, мяса і іншыя прадукты.

Як паведаміў калгасны ветурач Яўген Крайнік, абавязковая ўмова атрымання такой прэміі - выкананне асабістых дагавораў, якія жывёлаводы штогод заключаюць з гаспадаркай. Стымулы даволі дзейсныя: значна выраслі надоі, паказчык захавання маладняку наблізіўся да ста працэнтаў.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ.**

# Валютны "калідор" скончыўся. Але ці стане святлей?

**Як вядома, 31 студзеня Савет міністраў і Нацыянальны банк Беларусі прынялі сумесную пастанову аб бягучай валютнай палітыцы, паводле якой з 3 лютага ў краіне ўведзены адзіны абменны курс у 22 050 беларускіх рублёў за адзін амерыканскі долар.**

Між тым толькі за два тыдні да з'яўлення згаданага дакумента ўрад і Нацыянальны банк прымалі валютную пастанову. Нагадаем: яна ўстанаўлівала калідор для "зайчыка" ў 15 500—21 000 рублёў за долар. Адзін з архітэктараў такой палітыкі — першы віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч аптымістычна заяўляў, што "зайчык" не пераскочыць верхнюю мяжу "калідору" да канца 1997 года.

Хапіла ўсяго некалькі дзён, каб сапраўдны кошт беларускага рубля засведчыў недальнабачнасць такога прагнозу. Увесь апошні студзеньскі тыдзень гандаль грашыма на Міжбанкаўскай валютнай біржы вёўся пры максімальным абменным курсе у 21 000 рублёў за долар. Але нават за такі кошт жадаючых прадаць на біржы "зялёныя" было вельмі мала. Таму крушэнне валютнай палітыкі Пятра Пятровіча і яго аднадумцаў мела бясспрэчную логіку.

Зрэшты, паводле неафіцыйнай інфармацыі, супраць валютнага калідору і множнасці абменных курсаў рубля выступіў і новапрызначаны старшыня праўлення Нацыянальнага банка Генадзь Алейнікаў. Пастаўленая перад ім задача забеспячэння нармальнага функцыянавання біржы была невырашальная пры завышаным кошце беларускіх грошай і існаванні розных абменных курсаў на рынках наяўнай і безнаяўнай валюты. Востры дэфіцыт валютных сродкаў на набыццё энерганосьбітаў і іншых жыццёва неабходных тавараў прымусіў Г.Алейнікава настаяць, каб беларускія ўлады адмовіліся ад сваіх слоў і ў тэрміновым парадку скарэктавалі валютную палітыку краіны.

Але ці прынясе яна вынік? Не, лічаць незалежныя эксперты, бо рэальная валютная цана "зайчыка", на жаль, таннейшая чым 22 050 рублёў за долар. Такі абменны курс не здыме ажыятажу сярод пакупнікоў "баксаў" — ні на Міжбанкаўскай валютнай біржы, ні ў абменных пунктах камерцыйных банкаў. На думку спецыялістаў, беларускім уладам трэба рашуча адмовіцца ад адміністрацыйнага рэгулявання валютнага рынку краіны. Толькі яго поўная лібералізацыя, калі велічыню абменнага курсу будуць вызначаць попыт валюты і яе прапанова, можа прынесці эканамічны плён у гэтай справе.

**Міхал ХВАЙНІЦКІ.**

**Премьера рубрики "Золотые правила цивилизации"**

**За годы своего существования человечество выработало глубоко продуманные, проверенные жизнью правила поведения как каждого отдельного человека, так и целых народов и правительств. Они отображены в документах, нормах морали, произведениях искусства и народного творчества. Они, эти поистине золотые правила цивилизации, — наше самое дорогое духовно-нравственное богатство. Поэтому сейчас, в дни смуты, охватившей людские души, очень важно соприкоснуться с коллективным разумом предков, их духовным завещанием и набраться у них мудрости, знаний и нравственной силы.**

**Сегодня мы начинаем новый раздел — "Золотые правила цивилизации", в котором будут публиковаться фрагменты из важнейших документов, получивших общечеловеческое признание, мудрые мысли великих людей, завещания национальных лидеров, нормы морали, отрывки из художественных произведений и плоды народного творчества...**

**Просим читателей присылать свои предложения.**

**Приглашаем издателей к совместному выпуску брошюры на эту тему.**

Раздел будет вести публицист Иван МАКАЛОВИЧ.

# Десять заповедей Библии

Самая читаемая и уважаемая в мире книга — Библия. К концу 1989 года число языков, на которые она переведена, достигло 1928. Из них: полная Библия переведена на 314 языков, Новый Завет — на 715 и лишь одна из книг или несколько — на 899 языков. В настоящее время она переводится более чем на тысячу языков малых народов. Из них большая часть — это языки, на которых говорят всего лишь несколько тысяч, сотен и даже десятков человек.

Отдельные главы Библии записаны на пластинки и касеты специально для неграмотных и слепых.

По тиражу Библия занимает первое место в мире. Только в 1980 году издано около 36 миллионов экземпляров Библии и 57 миллионов экземпляров Нового Завета.

Во все времена эти книги почитали почти во всем мире, кроме бывшего Советского Союза, других коммунистических стран, где пытались опорочить религию и все связанное с ней.

Вот что писали о Библии известные люди.

**Федор Достоевский:** "Господи! Что за книга это священное писание, какое чудо и какая сила, данные с нею человеку..."

**Авраам Линкольн:** "Я верю, что Библия — это самый лучший подарок, который Бог дал человеку".

**Наполеон Бонапарт:** "Библия — это не просто книга, а живое создание с силой, которая преодолевает все, что ему сопротивляется".

**Франциск Скорина:** "В сей книге начало и конец всей мудрости... В сей книге найдешь все лекарства душевные и телесные".

**Иммануил Кант:** "Существование Библии как книги является самым полезным для человеческой расы. Любая попытка унизить ее — это преступление против человечества".

От себя осмелюсь добавить, что все наши беды нынешние и будущие происходят оттого, что выросло поколение руководителей, которые никогда не держали в руках Библию, не говоря уже о том, чтобы руководствоваться ею.

Итак, напоминаем **десять известных заповедей.**

**Я — Господь, Бог твой, который вывел тебя из дома рабства. Да не будет у тебя других богов перед лицом моим.**

**Не делай себе кумира и никакого изображения того, что на небе вверху, что на земле внизу и что в воде ниже земли, не поклоняйся им и не служи им.**

**Не произноси имени Господа, Бога твоего, напрасно, ибо Господь не оставит без наказания того, кто произносит имя его напрасно.**

**Шесть дней работай и делай всякие дела твои, а день седьмой — суббота Господу Богу твоему.**

**Почитай отца твоего и мать твою...**

**Не убивай.**

**Не прелюбодействуй.**

**Не кради.**

**Не произноси ложного свидетельства на ближнего твоего.**

**Не желай дома ближнего твоего, не желай жены ближнего твоего, ни раба его, ни рабыни его, ни вола его, ни осла его — ничего, что у ближнего твоего.**

Во многих книгах Библии расшифровываются эти заповеди, дополняются, высказывается множество мудрых мыслей и советов. Приведу для большей полноты восприятия лишь некоторые.

"Не судите, да не судимы будете, ибо каким судом судите, таким будете судимы, и какою мерою мерите, такою и вам будут мерить... И что ты смотришь на сучок в глазу брата твоего, а бревна в своем глазе не чувствуешь?.. Лицемер! Вынь прежде бревно из своего глаза и тогда увидишь, как вынуть сучок из глаза брата твоего".

"Просите и дано будет вам; ищите и найдете; стучите и отворят вам, ибо всякий просящий получает, ищущий находит и стучащему отворяют".

И золотое правило: "Как хотите, чтобы с вами поступали люди, так поступайте и вы с ними, ибо в этом закон и пророки".

"Берегитесь лжепророков, которые приходят к вам в овечьей одежде, а внутри суть волки хищные. По плодам их узнаешь их... Не всякий, говорящий мне "Господи, Господи", войдет в Царство Небесное, а лишь тот, кто исполняет волю Отца моего небесного".

"Вы слышали, что сказано: не убивай. Кто же убьет, подлежит суду.. А я говорю вам, что всякий, гневающийся на брата своего напрасно, подлежит суду..."

"Вы слышали, что сказано: "Люби ближнего твоего и ненавидь врага твоего". А я вам говорю: "Любите врагов ваших, благославляйте проклинающих вас, благотворите ненавидящих вас и молитесь за обижающих вас и гонящих вас, да будете сынами Отца вашего Небесного, ибо Он повелевает Солнцу своему восходить над злыми и добрыми и посылает дождь на праведных и неправедных".

И таких правил и мыслей — несколько книг. Библия представляет собой два сборника книг — "Ветхий Завет" и "Новый Завет". Первая включает 39 книг. Некоторые части "Ветхого Завета" написаны 3,5 тысячи лет назад. Писания "Нового Завета" состоят из 27 книг и появились около двух тысяч лет назад.

И что особенно важно: уже тогда людям были известны ответы на многие важнейшие вопросы жизни, над поиском которых многие невежды и сейчас разбивают свои лбы, вместо того чтобы раскрыть эти книги. Возможно, потому и прятали их от нас, чтобы мы не узнали ответы на главные вопросы.

**Где это видано...**

# Мутная вода для "мирской" рыбки?

**К когорте желающих осчастливить неизбалованного отечественного потребителя заморским ширпотребом решило присоединиться и представительство Межгосударственной телерадиокомпании "Мир" в Республике Беларусь. Но в счет "предоплаты" за грядущее изобилие на прилавках оно непременно хочет иметь различные налоговые и таможенные послабления.**

Не снискав лавров на творческой ниве и не добившись сколь-нибудь значимой взаимности от зрительской аудитории, белорусы "мирской" закваски устремились в производственно-коммерческую деятельность в области, близкой им по духу и предназначению, а именно: они пожелали вносить лепту в выпуск электронной аппаратуры. А поскольку опыта и навыков в этом деле у них еще меньше, чем в освоении информационного пространства, то на помощь призваны спецы из корпорации "Мара" и фирмы "Иточу Коммуникейшнс ГмбХ".

Цель поставлена благородная и актуальная: "Привлечь в электронную промышленность дополнительные внебюджетные инвестиции и создать новые рабочие места".

Насчет "внебюджетных инвестиций" — громко сказано. Есть основания предполагать, что в данном случае речь идет скорее о "мимобюджетных" вливаниях, причем неизвестно, в чей карман.

Да и рабочие места, судя по всему, "светят" нескольким десяткам человек, преимущественно с отвертками и паяльниками в руках. Для искушенных белорусских электронщиков это даже как-то оскорбительно.

Но не будем излишне придирчивы. Всякая разумная инициатива похвальна и заслуживает поддержки.

Поэтому логичным выглядит появление распоряжения президента Республики Беларусь от 4 января 1997 года за N 1 ри, в котором пока тезисно очерчиваются пути осуществления "мирских" желаний.

Особенно красноречив пункт 2: "Правительству в установленном порядке внести предложения об освобождении представительства... от уплаты налогов, таможенных пошлин, а также от нетарифных ограничений при ввозе на территорию Республики Беларусь в соответствии с заключенными контрактами товаров, используемых для выпуска телерадиоаппаратуры".

Знакомые мотивы, не правда ли?

Пусть не обижаются "миряне". У них наверняка в уме и за душой самые бескорыстные устремления. Но ведь свежи еще скандалы, связанные с деятельностью подобных "льготников": фирмы "Торгэкспо", Фонда М.Эсамбаева...

Казалось бы, обжегшись на молоке, впору и на воду дуть. Тем более что не так уж она и прозрачна, какой кажется на первый взгляд.

Разве можно закрывать глаза на то, что в Беларуси есть кому работать на удовлетворение спроса в области электроники? Эти предприятия сейчас находятся на подъеме, их изделия по качеству и надежности приближаются к мировым стандартам. Они и дальше согласны соперничать с именитыми коллегами. Но без "поддавков", на деловой основе.

Кстати, если свой горький опыт не убеждает, можно воспользоваться соседским. Б той же России, чтобы ограничить беспредел и засилье "желтой", "отверточной" аппаратуры, как правило, сомнительного происхождения и качества, но упакованной под знаменитую марку, постановлением правительства Российской Федерации от 6 января 1997 года введены "Меры поддержки производства отечественных телевизоров". Между прочим, тоже в "целях развития производства, создания дополнительных рабочих мест".

Надо ли пространно объяснять, чей подход оптимально соответствует национальным интересам?

У нас же, похоже, не иссякает решимость вновь наступить на одни и те же грабли.

Не надоело лоб подставлять, что ли?

**Константин ПАВЛОВИЧ.**

**P.S.** *Чтобы читатели не беспокоили редакцию звонками насчет того, а кто же стоит во главе телерадиокомпании "Мир", скажу сразу: до недавнего времени ее возглавлял небезызвестный парламентарий Иван Пашкевич. На днях А.Лукашенко назначил его заместителем главы Администрации президента Республики Беларусь. Вот так!*

**Справы армейскія**

**Урачыстае прыняцце вайсковай прысягі адбылося ў Віцебскай 317-й асобнай мабільнай брыгадзе. Маладых салдат благаславіў на ратную працу свяшчэннік Свята-Пакроўскага кафедральнага сабора айцец Павел.**

■ *На здымках: прысягу прымае радавы Сяргей Янчанка; благаславенне свяшчэнніка.*

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.



**Сравните**

**В 1913 году столяр за дневной заработок мог купить более 23 килограммов говядины. Сколько же он может купить сегодня?**

*Эта статистика появилась в одном из последних номеров "НЭГ". Считаем, что она вызовет интерес и у читателей "Народной воли". Сравните, задумайтесь... Нужно ли было "строить коммунизм", чтобы спустя восемьдесят с лишним лет удивляться цифрам 1913 года?*

**Средняя зарплата рабочего в России за 1 день (1913 г.)**

| | |
|---|---|
| Столяр | 1 руб. 40 коп.—2 руб. 40 коп. |
| Плотник | 1 руб. 40 коп.—2 руб. 20 коп. |
| Каменщик | 1 руб. 40 коп.—2 руб. |
| Кровельщик, маляр | 1 руб. 20 коп.—1 руб. 80 коп. |
| Кузнец | 1 руб. 20 коп.—1 руб. 70 коп. |
| Поденщик (чернорабочий) | 90 коп.—1 руб. 20 коп. |
| Поденщица | 50 коп.—1 руб. |

**Цены на некоторые продукты питания за 1 фунт в Москве**

| | |
|---|---|
| Хлеб пшеничный | 4—7коп. |
| Хлеб ржаной | 2,5—3,5 коп. |
| Говядина | 6—35 коп. |
| Телятина | 10—60 коп. |
| Свинина | 11—28 коп. |
| Осетрина | 27 коп.—1 руб. |
| Судак | 13—50 коп. |
| Окунь (речной) | 12—35 коп. |
| Масло сливочное | 40—60 коп. |
| Сахар | 14—15 коп. |
| Яйца (100 штук) | 2 руб. 20 коп.—4 руб. 20 коп. |

Таблицу подготовил **Валерий КУРИЛЕНОК.**

## І дэпутат, і не дэпутат...

"Народная воля" паведамляла ўжо, што 24 лістапада мінулага года на прайшоўшых выбарах у Вярхоўны Савет па Ангарскай акрузе Мінска дэпутатам парламента быў выбраны вядомы эканаміст Уладзімір Тарасаў.

Але Цэнтрвыбаркам адмовіўся зарэгістраваць яго, спасылаўшыся на ўвядзенне пасля рэферэндуму новай Канстытуцыі. Спадар Тарасаў не пагадзіўся з такім рашэннем і падаў скаргу ў Вярхоўны суд краіны. Што ж ён вырашыў?

Я звязаўся з Уладзімірам Тарасавым. Ён паведаміў, што Вярхоўны суд адмовіўся прыняць да вытворчасці яго скаргу на Цэнтрвыбаркам.

Што ж атрымліваецца? Грамадзяне выбралі свайго дэпутата ў парламент, а ўлады не хочуць яго прызнаваць. І нідзе нельга абараніць іх правы.

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**

## Пікет на "Зеніце"

У сувязі з затрымкай выдачы зарплаты свабодны прафсаюз Вілейскага завода "Зеніт" выставіў пікет з патрабаваннем неадкладнай выплаты грошай і індэксацыі. З трэцяга па дзесятае лютага гэтае прадпрыемства наогул спыніла работу з-за адсутнасці камплектуючых і абаротных сродкаў, запазычанасці за электраэнергію. Замест вырашэння неадкладных эканамічных праблем кіраўніцтва прадпрыемства распачало канфлікт з прафсаюзамі. Аб гэтым рэдакцыі паведаміла выконваючая абавязкі старшыні Свабоднага прафсаюза Беларусі Аліева.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

**Стала вядома**

# Камітэт ААН збіраецца заслухаць становішча з правамі чалавека ў Беларусі

Беларуская ліга правоў чалавека атрымала ліст з Камітэта па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, які знаходзіцца ў Жэневе. У ім паведамляецца, што з 3 па 21 сакавіка будзе разгледжана выкананне Міжнароднай канвенцыі ААН па прадухіленню ўсіх форм расавай дыскрымінацыі. На форуме плануецца заслухаць і становішча з правамі чалавека ў Беларусі. Таму камітэт просіць Беларускую лігу правоў чалавека прадставіць справаздачу аб парушэнні правоў чалавека ў галіне міжнацыянальных адносін, у прыватнасці па правах карэннага насельніцтва і нацыянальных меншасцей.

Мы папрасілі старшыню Беларускай лігі правоў чалавека Яўгена Новікава коратка расказаць, аб чым будзе сказана ў справаздачы, якая рыхтуецца ў Жэневу.

— Найперш аб парушэннях правоў чалавека карэннага насельніцтва, — сказаў ён. — У прыватнасці такіх, як рэзкае абмежаванне развіцця беларускай культуры, мовы і гісторыі, распаўсюджвання інфармацыі на нацыянальнай мове. Скарачаецца колькасць беларускіх школ. Многія бацькі не могуць уладкаваць сваіх дзяцей у беларускую школу. Назіраецца перакос у кадравай палітыцы. На кіруючыя пасады вылучаецца занадта шмат рускіх. Нават бальшавікі ў свой час зразумелі, як важна прытрымлівацца адпаведных прапорцый у гэтым пытанні.

Не лепш жывецца і нацыянальным меншасцям.Вялікая няхватка настаўнікаў, падручнікаў у польскіх і яўрэйскіх школах і класах. Прычым маральны прэстыж іх невысокі. Усё гэта гаворыць пра адсутнасць у краіне канцэпцыі па нацыянальнай палітыцы.

Як ні дзіўна, але Міністэрства юстыцыі адмовілася прадаставіць нам інфармацыю аб грамадскіх арганізацыях і таварыствах нацыянальных меншасцей Беларусі. Карыстаючыся выпадкам, звяртаюся да чытачоў газеты з просьбай дасылаць нам інфармацыю пра факты парушэння правоў чалавека па адрасу: 220050, Мінск, а/с N23, Беларуская ліга правоў чалавека. Кантактны тэлефон у Мінску 231-75-50.

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**

**Анонс**

# Из философии — в живопись, или Как в Беларуси появился интересный художник

**Когда четыре года назад четырехлетний внук кандидата философских наук, доцента БГУ Эдуарда Борисовича Лапотко попросил научить рисовать, дед решил не ударить лицом в грязь и попробовал что-то изобразить на листе бумаги. Он и представить себе не мог, во что это выльется впоследствии.**

Вскоре первая выставка, состоявшаяся в 1995 году в Минске, произвела настоящий фурор. Даже профессионалы схватились за головы: без специального образования уже в достаточно зрелом возрасте у всех на глазах появился серьезный художник, обладающий неповторимой индивидуальностью. Позже будут персональные выставки в Люксембурге и Бельгии. А 7 февраля 1997 года, как своеобразное подведение итогов, в день шестидесятилетнего юбилея Эдуарда Борисовича состоится выставка в Галерее современных искусств "6-я линия".

По мнению специалистов, Эдуарду Борисовичу посчастливилось избежать заимствования готовых формальных систем и отработанных приемов. Может быть, поэтому его работы не отнесешь ни к одному из существующих стилей и направлений.

Столь стремительный прорыв в таинственный и зыбкий мир живописи — это свидетельство многогранности таланта или счастливая улыбка фортуны? Наверное, и то, и другое. Сыграли определенную роль и прежние увлечения Эдуарда Борисовича — фотография и скульптура. Ведь фотография дала представление о композиции, перспективе, а занятия скульптурой приоткрыли тайну гармонии форм, пропорций, дали чувство линии. Между прочим, деревянной скульптурой Эдуард Борисович занимается уже более тридцати лет, участвует во многих выставках, имеет дипломы, звание народного мастера. Загадочные обнаженные женские фигуры, вырезанные чуткой рукой мастера, в свое время приверженцы соцреализма называли порнографией, тогда как для всякого, умеющего видеть прекрасное, они представляются скорее эстетическим воплощением самых сокровенных чувственных ощущений.

Эдуард Борисович творит необыкновенно быстро: наверное, наверстывает упущенное в молодости. У художника уже более пятисот работ. Очень многие из них он просто дарит. Работы Лапотко находятся в частных собраниях коллекционеров Беларуси, Бельгии, Израиля, Люксембурга, Швейцарии.

Сюжетный мотив, как признается Эдуард Борисович, не имеет для него первостепенного значения, а служит лишь отправной точкой для превращения "изобразительного" в "выразительное" и "содержательное". Поэтому самым важным для себя он считает не столько точность передачи мотива, сколько точность настроения, внутреннего состояния в момент творчества.

Соленый запах моря, элегантные парусники, органное многоголосье в сумрачном костеле, загадочные волнующие незнакомки... В мир фантазий художника входишь легко и свободно и хочется оставаться в нем как можно дольше...



Философ, скульптор, художник. Сегодня он начал пробовать себя и в прозе.

А пока что придите в Галерею современного искусства "6-я линия" и посмотрите на работы Мастера. Выставка "Фантазия и реальность" продлится с 7 по 23 февраля 1997 года.

**Анна СОУСЬ.**

## Поэт

*Когда прикормленный ручной*
*поэт*
*Тирады пишет, как тирану*
*рады—*
*Тогда ему открыты двери*
*в свет,*
*Тогда имеет он и званья,*
*и награды.*

*Когда ж поэт своим стихом бьет*
*в цель*
*Открыто, а не пишет*
*басен —*
*Тогда тиран становится,*
*как зверь:*
*Такой поэт не нужен —*
*он опасен.*

*Тирану брошу я в ответ —*
*Твой приговор ему*
*напрасен,*
*Не он виновник твоих*
*бед,*
*Душой он чист, умен,*
*прекрасен.*
*Поэт, ведь он всегда —*
*Поэт*
*И стих его загадочен*
*и ясен!*

**Николай МАРИН, пос. Дружный Пуховичского района.**

# "Не расстанусь с комсомолом..."

**Не так давно А.Лукашенко одобрил план мероприятий по созданию единой молодежной организации на Беларуси.**

Как стало известно, ее планируется создать на базе пропрезидентской молодежной организации "Прямое действие", Белорусского союза молодежи и других лояльных к существующему режиму организаций. Планируется, что называться сия структура будет Объединенный союз молодежи (ОБСМ).

Организаторы считают, что ОБСМ будет осуществлять управление молодежным белорусским движением. И до апреля филиалы ОБСМ появятся практически во всех областях и регионах республики. Причем ответственность за их создание ложится непосредственно на председателей облисполкомов.

План создания такой централизованной структуры, охватывающей всю республику, свидетельствует, согласитесь, о желании властей вернуть времена ВЛКСМ-ЛКСМБ, когда существовала единственная молодежная организация, зомбирующая молодых людей в соответствии с догмами правящей идеологии. Тогда преследовалось любое инакомыслие и исповедовался принцип: кто не с нами, тот против нас.

Это, в принципе, подтверждается и теми полномочиями, которыми планируется наделить ОБСМ. Тут и обязательное вхождение представителей организации в состав приемных и государственных комиссий в вузах, и формирование первичных ячеек в студенческой среде через сеть профкомов, и создание молодежной программы на волне 101,2 FM. Плюс, конечно же, контроль за неформальными молодежными клубами и дискотеками. Ну чем не комсомол 80-х?

Понятно, что режим, напуганный весенними и осенними выступлениями молодежи в прошлом году, всеми средствами стремится предотвратить подобное в будущем, особенно в преддверии "объединительного" референдума. Для этого, собственно, и создается организация, обладающая полномочиями тотального контроля над молодежным движением...

**Сергей САЛЕЙ.**

**По поводу**

# Если хилый - сразу в гроб

За минувший год население нашей республики сократилось на 37 тысяч. Эту цифру привел на собрании депутатов Верховного Совета 13-го созыва, оставшихся верными Конституции 1994 года, парламентарий Владимир Беляков. А вообще за последние пять лет, выражаясь языком медицины и статотчетности, естественная убыль населения составила более ста тысяч человек. Ужасная цифра!

Владимиру Белякову можно верить. Профессиональный врач до избрания депутатом работал в Минском горздраве и не понаслышке знает тему. В прошлом году на нужды здравоохранения республики выделили всего 60 процентов от необходимого. Новым бюджетом из требуемых по самым скромным расчетам 17 триллионов рублей предусмотрено отдать медикам лишь 11,6 триллиона. Впрочем, как хорошо известно, у нас есть традиция: обещать, но не выполнять.

Однако самое страшное даже не это. Владимир Беляков сообщил, что медикаменты исключены из сферы, в которой предусмотрен льготный обмен белорусских рублей на валюту, столь необходимую для закупок импортных фармацевтических средств и аппаратов. Теперь рубли приходится менять на Межбанковской валютной бирже. А это означает, что для получения одного доллара нужно выложить более тридцати тысяч "зайчиков". Тем же, кто не силен в этих подсчетах, объясним популярно: цена импортных лекарств вскоре вырастет в два раза.

Но, как известно, беда одна не ходит. Владимир Беляков сообщил также, что на 30—60 процентов обеспеченность лекарствами удовлетворялась за счет гуманитарной помощи. Однако в последнее время она также резко сократилась. Словом, куда ни кинь - всюду клин. Похоже, что несчастным больным остается одно - последовать совету незабвенного Владимира Высоцкого, который певал: если хилый - сразу в гроб...

Впрочем, есть один человек, который может помочь старикам и больным. Владимир Беляков напомнил его имя: "Это президент Лукашенко, который громогласно заявлял, что он лично занимается и будет заниматься проблемами здравоохранения". Наш президент самолично занимается всем: продуктами, жильем и прочим. Результаты такой заботы всем известны...

**Владимир ГЛОД.**

